ЗЬМЕСТ



**НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ**

**ЗША**

**Miss L. Michalcyk, 1211 Starkweather Ave., Cleveland, Ohio**
Miss G. Kabuska, 10 Washington St., Highland Park, N. J.
**Mr. M. Kuczura, 1217 N. Wolcott Ave., Chicago 22, Illinois**
Miss S. Pleskacz, 17574 Brush Ave, Detroit 3, Mich.
Mr. M. Sienka, 24 Herman St., South River, N. J.

**Канада**

**Mr. U. Baranovich, 111 Lindsey Ave., Toronto, Ontario**
Mr. J. Babrouski, 1008 Dovercourt Rd, Toronto, Ontario, Canada.
Mr. K. Karanieuski, 285 Cedar St., Sudbury, Ontario, Canada.

**Ангельшчына**

**Mr. A. Laszuk, 97 Moore Park Road, London S. W. 6**

**Бэльгія**

Mr. M. Streczyn, Place Hoover 19, Louvain

**Зах. Нямеччына**

Miss. R. Stankievic, (13b) Muenchen 13, Ainmillerstr 33/4

**Аўстралія**

**Mr. W. Akavity, 80 Tapleys Hill Rd., Royal Park, S. A.**
Mr. M. Nikan, 14 Steel St., Spotswood, Victoria
Mr. A. Vasilenia, 39 Edwin St., Croydon, New South Wales.

**Адрыс рэдакцыі: „Беларуская Моладзь", 401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.**

**Гадавая падпіска у ЗША й Канадзе — $2. Грашовыя пераказы выстаўляць на:**
"BYELORUSSIAN YOUTH"

Text in English and Byelorussian. Four times a year. Supplements issued irregularly.
**Byelorussian Youth Association of America, 401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.**

**БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ**

**Квартальны часапіс беларускага маладога пакаленьня ў Амэрыцы**
**Выдае: Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы**
**Рэдагуе: Калегія**

**Год выд. III. КРАСАВІК—ЧЫРВЕНЬ 1961 № 10**

# НАШ ПАГЛЯД

*На цябе, наша моладзь, надзея!*

*Янка Купала*

Гэты кліч папулярны сярод Беларусаў — і ясна чаму. Надзея на лепшую будучыню народу — гэта надзея на маладое пакаленьне, надзея, што яно будзе весьці далей змаганьне за адраджэньне незалежнае Беларусі, надзея, што гэтае пакаленьне выканае ўсё тое, чаго не пасьпелі зрабіць бацькі . . .

Чуецца гэты кліч сяньня й сярод беларускае эміграцыі ў вольным сьвеце. Палітычныя эмігранты маюць вялізарныя магчымасьці працаваць для Беларусі, куды большыя, чымся ў нашых суродзічаў пад бальшавіцкай акупацыяй.

Зь гісторыі ведама, як шмат можа зрабіць добра арганізаваная эміграцыя. Прыкладам, дзейнасьць польскіх і чэскіх эмігрантаў спрычынілася ў вялікай меры да аднаўленьня незалежнасьці Польшчы й Чэхіі па 1-ай Сусьветнай вайне. Роля й палітычнае значаньне сяньняшняе беларускае эміграцыі вельмі падобныя й маюць гэткія-ж самыя пэрспэктывы. Выкарыстаць гэтыя магчымасьці працы — асноўнае заданьне маладога беларускага пакаленьня. Гэтае пакаленьне ўзыходзіць цяпер на шлях працы для адраджэньня Беларусі ды вядзе гэтую працу ў новых абставінах, дагэтуль не сустраканых у беларускім незалежніцкім руху. Мы, маладое пакаленьне — духовы лучнік паміж беларускім народам і вольным сьветам. Мы разважаем пабеларуску й гладзём на рэчы з гледзішча Беларуса, — але сфармаваўшыся на Захадзе, мы можам лепш і дакладней перадаць ідэі й імкненьні беларускага незалежніцкага руху грамадзянам вольнага сьвету.

Прыкладам, тут, у Амэрыцы, бяручы ўдзел у палітычным жыцьці (у выбарах і інш.) і сочачы зьмены палітычных паглядаў амэрыканскае публікі й дзеячоў, мы можам неадкладна й трапна рэагаваць на іх і зьвязваць сяньняшнюю грамадзкую думку з праблемай вызваленьня Беларусі. Вучачыся й працуючы, мы можам штодня ўплываць на сваіх сяброў-Амэрыканцаў ды рабіць іх прыхільнікамі нашых ідэяў. Не забываймася, што іхныя пагляды твораць грамадзкую думку Амэрыкі, а гэта ўплывае на вынікі

выбараў амэрыканскага ўраду ды на ягоную палітыку ў дачыненьні да вызваленьня Беларусі.

Працуючы ў новых абставінах, мы ня можам сабе дазволіць займацца дыскусіяй палітычных розьніцаў, паўсталых яшчэ на Бацькаўшчыне ў ненармальных абставінах бальшавіцкае, польскае й нямецкае акупацыяў. Мы ўважаем, што гэтыя розьніцы, перанесеныя на амэрыканскі грунт, губляюць сваю актуальнасьць і мусяць адыйсьці на задні плян. Тут яны толькі дзеляць і драбняць нашыя сілы, даводзяць да непатрэбнай дуплікацыі й байкоту здаровых грамадзкіх высілкаў, да аслабленьня грамадзкае працы. Нашая эміграцыя, занятая дыскусіяй эпізодаў мінуўшчыны, што хвальшыва ўзводзяцца ў ступень палітычных прынцыпаў, часта не знаходзіць энэргіі й часу для паважнае працы над тымі заданьнямі, якія прыносіць сяньняшні дзень.

Гэта ня значыць, што мы супраць разгляду нашае нядаўнае гісторыі. Але мы хочам самі ацаніць тое, што было зроблена для дабра беларускага народу, кім-бы ні рабілася: нацыянал-дэмакратамі ў БССР, грамадаўцамі пад польскай акупацыяй, ці беларускім актывам пад нямецкай акупацыяй. Мы цэнім гэтую працу й хочам навучыцца зь лекцыяў мінулага, пашукаць і паслухаць парады старэйшых.

Нашая інфармацыйная дзейнасьць навонкі набудзе куды большае вагі, калі яе падмацуе дынамічная грамадзкая праца ўнутры. Што найважнейшае ў гэтай працы? На наш пагляд, вось што:

1) Нацыянальнае ўзгадаваньне беларускага маладога пакаленьня, асабліва пры дапамозе беларускіх школаў.

2) Утрымоўваньне й пашыраньне беларускае культуры — народных песьняў, танцаў, мастацтва.

3) Рэгулярная інфармацыя ў беларускай і ангельскай мовах (праз газэту, радыё) — асабліва там, дзе беларуская эміграцыя мае магчымасьць браць удзел у грамадзкім жыцьці краю (у ЗША, Канадзе, Аўстраліі).

4) Арганізаваньне грамадзкіх прыбытковых прадпрыёмстваў, якія маглі-б матар'яльна падтрымаць беларускую грамадзкую дзейнасьць.

Сьведамыя й ідэйныя Беларусы-эмігранты ведаюць, што на гэтыя рэчы трэба узяць асаблівую ўвагу. Аднак, трэба сьцьвердзіць, што ў усіх гэтых галінах грамадзкае працы робіцца куды менш, чымся можна было-б рабіць. Удала й эфэктоўна весьці гэтую працу беларуская эміграцыя здолее толькі тады, калі змабілізуе *ўсе* свае сілы, выкарыстае здольнасьць і энэргію *ўсіх* суродзічаў, незалежна ад іхнае арганізацыйнае прыналежнасьці.



**Беларуская моладзь!** **Сяброўкі й сябры!**

## 10-Ы ГАДАВЫ ЗЬЕЗД
## Згуртаваньня Беларускае Моладзі у Амэрыцы

адбудзецца 2—4 верасьня 1961 г. (Лэйбар Дэй) у Кэтскілскіх горах штату Нью-Ёрк (недалёка ад Кінгстану).

**У прыграме:** нарады й выбары кіраўніцтва ЗБМА; вогнішча зь вясёлай праграмай; танцавальны вечар; мастацкая самадзейнасьць; спартовыя спаборніцтвы й сяброўскія гульні; купаньне; паходы.

Па дакладныя інфармацыі аб праграме, даезьдзе, коштах начлегу й харчаваньня, выкарыстаньні палаткаў ды іншым просім звярачацца на адрыс „БМ" або да кіраўнікоў мясцовых аддзелаў ЗБМА.

**Справа начлегу:** На вышэй спомненыя адрасы просім як найбарджджэй кіраваць замоўленьні на начлег, каб мець пэўнасьць.

---

## НАШЫМ МАТКАМ У ДЗЕНЬ ІХНАГА СЬВЯТА

*(З рэфэрату прачытанага на Сьвяце Маці, ладжаным аддзелам ЗБМА ў Нью-Ёрку 14 траўня 1961)*

. . . Бо-ж для нас мама — гэта ўсё. Яна й жыцьцё дала і выняньчыла зь першых дзён, ня сплючы часта цэлымі начамі, калі было хворае дзіцятка. Яна і карміла і даглядала, і абшывала і абмывала, ды бязупынна аберагала ад усялякае шкоды.

Ды ня толькі аб патрэбах кволага цела дзіцяці дбала руплівая маці. Можа яшчэ больш клапацілася яна, дый клапоціцца ўвесь час, аб узгадаваньні душы свайго дзіцяці. Маткі ахоўваюць нас ад дрэнных прыкладаў, ад дрэннага таварыства. Яны клапоцяцца, каб з нас вырасьлі добрыя людзі. Гэта мама сваім прыкладам і словам вучыць нас быць сумленнымі, справядлівымі, ветлівымі, добрымі. Яна прывучае нас да працавітасьці й парадку. Нажаль, мы часта засмучаем нашую маці непаслухмянасьцяй. А яна, вечна няўтомная, сваёй ахвярнай працай стварае сямейнае гняздо, родны кут, дзе так цёпла, утульна й лагодна ад матчынае ласкі.

Пілнуючы неадлучна сьвяты агонь гэтага сямейнага гнязда, яна вучыць нас любіць дом, сям'ю, парадак, быць у будучыні таксама добрымі маткамі. І дзе-б мы ні апынуліся ў сьвеце, куды-б ні занёс нас віхор жыцьця, сама дарагім, сама прыемным будзе для нас успамін пра родны кут, асьвечаны любосьцяй маткі.

То ня яснага сонца праменьні,  
Гэта вочы матулі мае  
Цяжкі сум мой у радасьць заменяць (Ларыса Геніюш).

. . . Але ёсьць яшчэ адна, ды можа найбольшая заслуга нашых матак — беларускіх матак. Яны дбаюць, каб мы тут, у новым краі, што нас прыгарнуў у нядолі, не забыліся, што мы Беларусы. Гэта яны — нашыя маткі й бацькі вучаць нас роднага слова. Яны памятаюць вялікую перасьцярогу нашага славутага адраджэнца Франьціша Багушэвіча: „Не пакідайце мовы нашае беларускае, каб не памерлі" *). А хто-ж нас вучыць роднае мовы, хто дбае, каб не забыліся мы мовы дзядоў і прадзедаў нашых? Пэўна-ж, нашыя маткі.

Нам, невялікай колькасьці дзяцей беларускіх эмігрантаў, вельмі лёгка згубіцца ў вакіяне агулу. Вучымся мы ў школе разам з усімі паангельску, пасьпяваем у навуцы ня горш, а часта й лепш за іншых. Нас любяць нашыя новыя сябры. Гэта ўсё добра — мы пачуваем сябе зусім добра у нашым новым краі, але нас зацягвае, паглынае паступова агульная грамада, а мы-ж павінны памятаць Бацькаўшчыну нашых дзядоў, край, адкуль мы паходзім. Памятаць і рыхтавацца стаць у вабарону ягонай незалежнасьці. Янка Купала ў вершы „Матцы" раіць:

Над калыскай зь бегам ночак
Песні роднай не жалей,
Каб, як вырасьце сыночак,
Верным вечна быў ён ей.

І маткі йдуць за гэтай радай. Сьпяваючы песьню над калыскай, расказваючы казку, вучачы вершыка, песенькі, маці ўлівае ва ўсю істоту дзіцяці змалку дзён любасьць да роднае мовы, разьвівае пачуцьцё прыгожага.

Пілнуючы й захоўваючы народныя звычаі, сьвяты, вучыць нас любіць усё сваё, асабліва, у нашым Краі шанаванае. Апавядаючы пра жыцьцё-быцьцё на Бацькаўшчыне, знаёмячы з творамі нашых пісьменнікаў, выклікае любасьць да нашае Айчыны — далёкай паняволенай Беларусі.

---

### Ці ведаеце вы, што . . .

*Ведама, што Тураў існаваў ужо ў 960 годзе.*

*Берасьце ўспамінаецца ўпяршыню ў 1019 годзе.*

*Ведамкі пра Мазыр ёсьць ужо ў 1155 годзе.*

*Летапіснае ўспамінаньне аб Пінску было ўжо ў 1097 годзе.*

*Слонім ўспамінаецца ўпяршыню ў 1040 годзе.*

*Давід-Гарадок ўспамінаецца ўжо ў XII стагодзьдзі. Гэтаксама й Ваўкавыск.*

---

*) Глядзі на б. 15 поўны тэкст прадмовы да „Беларускай Дудкі" Франьціша Багушэвіча.







# BYELORUSSIA BETWEEN TWO WORLD WARS

Western part of Byelorussia, with the cities of Bielastok, Horadzien (Grodno), and Vilnia were occupied by the German armies as early as 1915. Vilnia became the center of Byelorussian political and cultural activities, which were centered around the semi-weekly newspaper *Homan* (Clamor) and the Byelorussian Committee for Help to the Victims of War. In 1918, with the eastward advance of German troops, the Byelorussian national movement gained momentum and on Marh 25, 1918, in the capital city of Miensk, Byelorussia's independence was proclaimed, the new country being named the Byelorussian Democratic Republic (BNR).




*Partition of Byelorussia in 1921.*
*Postcard circulated at that time.*

However, Germany did not recognize the BNR and tried to prevent the formation and training of Byelorussian military units, needed to defend the country.

The lack of adequate military power placed the BNR in a difficult situation at the end of World War I, in November 1918. The Republic was facing two hostile, superior, and better organized military forces: the Russian Bolsheviks, advancing from the East, — and the Polish army, supported by the victorious Western allies, moving in from the West.

The Bolsheviks were forced to recognize the desire of the Byelorussian people for national independence and sought to satisfy it in their own fashion: by proclaiming a Byelorussian Soviet Socialist Republic (BSSR) in Smalensk on Jan. 1, 1919. The Poles, led by Gen. Piłsudski, also tried to gain the support of the Byelorus-

sian people and their government. They appealed to the "inhabitants of the Grand Duchy of Lithuania" (of which Byelorussia was the main historical part), and proclaimed that they were fighting "for both our and your freedom." Byelorussians were promised political and cultural autonomy within the Polish state, and Piłsudski even advanced the idea of a lose federation of Poland, Byelorussia, Lithuania, and the Ukraine. Byelorussians, however, were cautiously distrustful, — and indeed it soon turned out that the Polish appeals were neither intended nor taken seriously by those who issued them. The occupied Western Byelorussian lands were later made an integral part of the Polish state.

The Polish-Soviet warfare ended in the fall of 1920. The truce divided Byelorussia along a demarcation line which ran from Drysa on the Dzvina River in the North to Davidharadok in the South, leaving the capital city of Miensk east of this line. Even though Byelorussian military forces were inadequate and too scattered to offer united resistance to both the Poles and the Bolsheviks, in many places they did put up a strong fight and with the support of the local population, defended the country against both invaders. The most memorable and best organized stand was taken in the *Słucak* (pronounced: Slootsak) region in November and December, 1920. Over 10,000 defenders took up arms against the Russian Communist invaders. For five weeks the Słucak Brigade resisted the overwhelming forces of the Red Army, which was plagued by widespread desertions to the Byelorussian side. Only the use of so-called "international" Communist troops finally forced the Słucak patriots to retreat to the Polish border, where they were disarmed and interned on Dec. 28, 1920. Many other revolts took place at this time — especially in Eastern Byelorussia — as in Vialiž, Barysaŭ.

The treaty of Riga, signed on March 18, 1921, formally divided Byelorussia along the Polish-Soviet truce line of 1920. Western Byelorussia with about 4 million people became a part of Poland. The Soviet Byelorussian Republic (BSSR) was established in the central part of the country with the capital in *Miensk* ("Minsk" is the russified form). More than half of the ethnic Byelorussian territory — the East and the North, became part of the Russian Soviet Republic. Ironically, even the city of Smalensk, where the BSSR was originally proclaimed in 1919, remained in the Russian republic.

The Council and the government of the BNR, headed by P. Krečeŭski and V. Łastoŭski respectively, were forced to emigrate.

(To be continued in the next issue of "BM").

*Lićvin.*



# ХРОНІКА

## НЬЮ ЁРК

14-га траўня моладзь Нью Ёрку ўрачыста ўшанавала сваіх матак мантажом сьпеваў і дэклямацыі пад назовам „ У дзень маткі".

У мантажы бралі ўдзел сяброўкі й сябры ЗБМА разам із малодшымі, будучымі сябрамі арганізацыі. Прысутныя глядачы, сабраўшыся, каб адзначыць у гэты дзень таксама сьвята патрона Сабору БАПЦ, сьв. Кірылы Тураўскага, былі вельмі здаволеныя мастацкім выступленьнем. Асаблівая падзяка належыцца сп-ні Н. Орса за яе ахвярную працу пры падрыхтоўцы мантажу ды сяброўцы Галі Орса за навучаньне сьпеваў.

Перад мастацкай часткай сяброўка Яра Тумаш хараша прачытала рэфэрат на тэму Сьвята Маці (гл. бач. 3) і сяброўкі Таня Каралевіч і Оля Мельяновіч прадавалі бел-чырвона-белыя й васільковыя букецікі, каб дзеці маглі сваіх мамаў упрыгожыць.

---

У дні ад 1-га да 4-га ліпеня Ньюёрцкі аддзел ЗБМА разам із Саюзам Беларуска-Амэрыканскае Моладзі із Саўт Рывэру ладзіць выезд ў **Кэтскільскія горы** на фарму аднаго із сяброў ЗБМА, Анатоля Александровіча. Арганізатары выезду: ад Нью Ёрку — А. Лысюк, ад Саўт Рывэру — М. Сенька.

---

8 травеня ў Нью-Ёрку сяброўка **Клава Ярашэвіч** брала ўдзел у канцэрце, ладжаным школай сьпеву Кл. Таранавай. Салявыя выступы Клавы былі сустрэтыя вельмі прыхільна. Беларускім слухачом асабліва прыемна было паўторнае выкананьне „Юрачкі" на заканчэньне канцэрту.

23-га красавіка аддзел ЗБМА ладзіў мастацкі вечар разам із Швэдамі й Эстонцамі пры Радзе Народных Мастацтваў. Беларуская праграма складалася зь песьняў „Палыночак" і „Ой, зарадзілі ягады", дасканальна выкананых сяброўкамі Оляй і Клавай Ярашэвіч пры акампаніямэнце сп-ні Ракоўскай, — і з народных скокаў „Таўкачыкі" й „Лявоніха". Ведамаму ўжо танцавальнаму гуртку ЗБМА акампаніявала сяброўка Галіна Орса. У прадмове да выступу была адцемленая вялікая патрэба вучэньня, пашыраньня ды запісваньня беларускіх песьняў і танцаў, і стараньні робленыя ЗБМА ў гэтым кірунку.

Прысутная на вечары кіраўнічка Амэрыканскага фэстывалю, сп-ня С. Нот, сваёй пахвалай запэўніла выступ танцавальнага гуртка ў Вашынгтоне (гл. асобны рэпартаж аб гэтым выступе).

---

26-га траўня адбылася апошняя зборка моладзі ў ІВКА перад летнім перапынкам. Вольная праграма вечару дала магчымасьць паскакаць, папяяць, абгутарыць пляны на лета — і ў канцы, паводля традыцыі мінулых гадоў, разьвітацца, пабраўшыся за рукі, песьняй „Ноч ідзе . . . ".

Зборкі ў ІВКА пачнуцца йзноў у верасьні, але да таго часу кіраўніцтва аддзелу мае на ўвеце розныя пляны ды непрадбачныя агульныя зборкі.

---

**Вітаем** з заканчэньнем сярэдняе школы сяброваk **Ганну Зыбайлу** й **Валю Захаркевіч** зь Нью-Ёрку й **Надзю Хмялеўскую** з Саўт-Рывэру..

### КІЁСК ЗБМА Ў НЬЮ-ЁРКУ



Фота: Міхася Казьлякоўскага.

У канцы леташняга году стараньнем цяперашняга кіраўніцтва аддзелу ў складзе Васіля Мельяновіча, Кастуся Вераб'я, Паўлы Алексы, Валодзі Тарашкевіча й Міхася Казьлякоўскага былў заснаваны **кіёск** ЗБМА. У ім можна цяпер набыць бадай усе беларускія выданьні, як прыкл.: кніжкі, часапісы, газэты, кружэлкі, сьвяточныя карткі й г. д.

Галоўнае заданьне кіёску — гэта распаўсюджваньне беларускае прэсы Кіёск дасканальна кіруюць сябра Вячаслаў Станкевіч, сяброўка Ніна Каваль і сябра Кастусь Верабей.

### НЬЮ-БРАНСУІК

Адзел ЗБМА ўжо пачынае рыхтаваць сваю мастацкую праграму на 10-ы гадавы зьезд Згуртаваньня. Плянуецца невялікі паказ пры вогнішчы разам зь песьнямі.

Сябра Юрка Стагановіч, заступнік кіраўніка аддзелу, выкарыстоўвае свае музычныя здольнасьці, граючы ў аркестры сп. Ул. Бычкоўскага.

---

**Вітаем** Галіну й Васіля Русака з нараджэньнем дачкі **Натальлі.** Хайжа яна расьце бацьком на пацеху!

**Вітаем** сп-чну Мірэну Бітаўт і сябру **Міхася Казьлякоўскага,** актыўнага сябру ЗБМА ў Нью-Ёрку, з нагоды шлюбу. Жадаем маладой пары шмат шчасьця й удачы ў будучыні!

Вітаем **Міхася Бахара й Любу Урыўскую** з нагоды шлюбу , які адбудзецца 15 ліпеня ў Саўт-Рывэры, Н. Дж.

Вітаем **Кастуся Вайцяхоўскага** й сп-чну **Люцылю Соўэл** з нагоды шлюбу, што адбыўся 17 чырвеня ў Сан-Дыего, Каліфорнія. Жадаем маладажонам шчасьлівага жыцьця пад пальмамі Далёкага Захаду!



### ДЭТРОЙТ

Сяброўка **Сьвятлана Пляскач** бярэ актыўны ўдзел у працы Беларускага Драматычнага Гуртка ў Дэтройце, які сёлета вельмі удала выканаў п'есу „Паўлінка" у беларускіх асяродках ЗША й Канады.

Вось што піша Сьвятлана аб гэтай працы:

**PAŬLINKA,** a play by the famous Byelorusian playwright and poet, Janka Kupala, was presented in Detroit, Chicago and Toronto by the Byelorussian Dramatic Club of Detroit. The play was a great success and the audiences all over were very receptive and seemed to enjoy the play very much. After months and months of hard work and many, many rehearsals, the play was first staged in Detroit, two weeks later in Chicago, and a week later in Toronto. Actually, only the performers can realize the hard work and tremendous effort that goes behind staging and presenting a play. The players were working on a very tight schedule, and the long trips by car were exhausting. However, the moral satisfaction was very great, because this group kept the Byelorussian spirit, culture, and heritage alive.

It must be kept in mind that this group is made up strictly of amateurs, mainly married people plus students both in high school and college. This group is also comparatively new, and we still need a lot of work to get better. However, only through more active participation and more work are we, in Detroit, going to be able to better ourselves and put on more and more plays. Although the Byelorussian population is small in comparison with other populations in other cities, we have made our presence known here in Detroit, and we feel that this is still only a beginning, leading to greater and better things in the future.

We certainly need more active Byelorussians as these, and we need more plays, concerts, and other Byelorussian activities promoted all over the United States, Canada, and other countries, for who else will uphold the Byelorussian heritage, culture, and tradition than the Byelorussian people themselves?

Толькі што мы даведаліся, што Сьвятлана ўвосені паступае на Мішыганскі ўнівэрсытэт. Жадаем ёй шмат посьпехаў у навуцы і ў далейшай грамадзкай працы!

---

### НАШЫЯ ТАНЦАУНІКІ У ВАШЫНГТОНЕ

Штагоду Таварыства Народнага Мастацтва Амэрыкі ладзіць усеамэрыканскі фэстываль, на якім выступаюць фальклёрныя гурткі розных этнічных групаў, а часта таксама госьці з Канады й Цэнтральнае Амэрыкі. На сёлетнім фэстывалі, што адбыўся ў Вашынгтоне, першы раз выступалі й Беларусы — танцавальны гурток ЗБМА зь Нью-Ёрку.

Фэстываль трываў цэлыя тры дні. Нашая моладзь выступала ў вапошні дзень, у сыботу ўвечары 22 травеня. Вячорная праграма пачалася шкоцкімі танцамі. Іх выканалі дзяўчаты з Таронта пад музыку мясцовых вашынгтонскіх Шкотаў-дудароў. За імі выйшла моладзь зь Вірджыніі з амэрыканскім народным танцам „сквэр дэнс" („квадратны танец"). Пры гэтым канфэрансье выясьняе, што першыя амэрыканскія пасяленцы даўгі час наагул не танцавалі, бо ўважалі танцы за грэх. Далей выступілі квартэт канадзкіх Французаў-дрывасекаў, малады украінскі бандурысты й прадстаўніца штату Кэнтакі зь гітарай і песьнямі амэрыканскага паўдня.

Глядзём на праграму. Наступныя маюць быць нашыя суседзі Летувісы з танцамі „Млын" і . . . што? зь „Мікітам", якога маюць танцаваць і Беларусы! Навет пішуць аднолькава... Вось выходзяць Летувісы на сцэну. Шмат у іх супольнага зь Беларусамі: вопратка (асабліва ў хлапцоў), фігуры танцаў ды аднолькавая мэлёдыя „Мікіты". За Летувісамі выступалі Нэгры з дасканалым выкананьнем колькіх рэлігійных песьняў, фінская група з бадзёрымі полькамі, а тады й Беларусы: Ала Орса, Ганна Зыбайла, Оля Мельяновіч, Ніна Каваль, Таня Каралевіч, Герда Кабушка з акардыёнам, Мікола Александровіч, Аркадзь Каваль, Вячаслаў Станкевіч, Кастусь Верабей (у рыхтаваньні танцаў шмат памагала Галіна Орса, у транспартацыі танцаўнікоў — Уладзік Тарашкевіч).

Чатыры беларускія пары выканалі „Крыжачка" й „Мікіту". Выканальнікі ў нязвычайнай форме: танцуюць з энтузіязмам. Публіцы гэта вельмі падабаецца. Сыплюцца воплескі. Аднекуль з галёркі чуваць „Брава" — ды не зь беларускім акцэнтам. За нашымі пайшлі мадзярскія танцы, а на канчатак фэстывалю — група амэрыканскіх Індыянаў, як найстарэйшых жыхароў і гаспадароў краю . . .

Па канцэрце бачымся зь іншымі глядачамі-Беларусамі, гутарым з танцаўнікамі. Мясцовыя Беларусы запрашаюць гасьцей да сябе, хочуць імі больш нацешыцца. Усе задаволеныя. Чуюцца толькі заўвагі й жаль, што Беларусы замала паказваюць сваё народнае багацьце: чаму-ж няма больш танцаўнікоў, сьпевакоў? З праграмы бачым, што Летувісы, прыкладам, выступалі на фэстывалі чатыры разы, кажны дзень, а мы— толькі раз, толькі з двума танцамі . . . Добра, што такія разважаньні пачынаюцца, бо зь іх можа паўстаць чын. Беларуская моладзь можа высылаць на ўсеамэрыканскія фэстывалі не чатыры, а дваццаць параў танцаўнікоў, цэлыя хоры, таленавітых сьпявачак і музыкаў — калі яна будзе трымацца разам і **супольна** паказваць сьвету багацьце нашае народнае культуры.

**Вашынгтонец.**

# Карставыя зьявы на Беларусі

*У мясьцовасьцях, дзе шырака распаўсюджаныя вапняковыя пароды, паўстаюць своеасаблівыя формы рэльефу, разьвіваюцца падземныя пягоры ды вельмі гаста, як гаворыцца, „зьнікаюць рэкі". Такія мясцовасьці завуцца карставымі. Карставыя зьявы паўстаюць калі вапнякі растварающа водамі й на іх месцы ўтвараюцца пягоры.*

*На Беларусі карставыя зьявы ведамыя ў раёнах каля ракі Дзьвіны, на Гомельшчыне, дзе апошнімі гадамі адкрытыя вялізарныя пягоры на глыбіні колькі сот мэтраў, ды таксама шырака распаўсюджаныя на Смаленшчыне. (У Амэрыцы карставыя пягоры знаходзяцца ў штаце Кэнтакі, Нью-Мэксыка й інш.).*

*Слова „карст" паходзіць зь Югаславіі, дзе гэтыя зьявы ўпяршыню дасьледаваліся.*



**КЛІЎЛЕНД**

**19-га** сакавіка танцавальны гурток школьнае моладзі пад кіраўніцтвам Мані Лук'янчык выступаў на базары, які ладзіла арганізацыя кліўлендзкіх жанчынаў. Танцаўнікі надзвычайна выканалі два танцы й вельмі зацікавілі чужынцаў. Акардэаністка Оля Дубановіч выканала некалькі беларускіх мэлёдыяў.

**26-га** сакавіка моладзь прыймала актыўны ўдзел у сьвяткаваньні Дня Незалежнасьці, асабліва ў мастацкай частцы акадэміі. Гэтым разам выступаў танцавальны гурток, хор, школьная аркестра, акардэаністка Оля Дубаневіч і салістка Іра Каляда.

**9-га** красавіка Харваты Кліўленду сьвяткавалі Дзень Незалежнасьці, на які запрасілі й Беларусаў. У мастацкай частцы танцавальны гурток школьнае моладзі выканаў два беларускія народныя танцы, „Мікіту" й „Крыжачок". Гаспадаром яны вельмі падабаліся, аб чым сьветчылі бурныя воплескі, якія часта перарывалі й заглушалі танец. Маладых танцаўнікоў узнагародзілі прыгожым букетам красак. Пасьля акадэміі пачалася вечарына. Сяброўка Іра Каляда выступала з сьпевам пад акампаніямэнт аркестры.

6-га траўня БАЗА ладзіла выставу беларускага народнага мастацтва й прэсы. Моладзь, як заўсёды памагала дзяжурыць пры выставе й зрабіла шмат прапаганды беларускай справе. Аглядаць выставу прыходзілі розныя мастакі ды людзі, якія адыграюць вялікую ролю у мясцовым жыцьці. Выставу аглядала каля дзьвюх тысячаў людзей. Там-жа было раздана шмат брашурак і кніжак пра Беларусь.

**АНГЕЛЬШЧЫНА**

Сябра Юрка Якубовіч паведамляе, што ўжо пачаліся стараньні заснаваць Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Лёндане. Першай справай арганізатараў было распаўсюджаньне абежнікаў для перапісу жыхарства Вялікабрытаніі, дзе, як ведама, жыве шмат Беларусаў. Зацікаўленых просіцца зварачацца на адрыс Беларускага Народнага Дому ў Лёндане.

Беларускай моладзі Лёндану рэдакцыя „БМ" жадае далейшых удачаў.

**УВАГА! УВАГА!**

Просім загадчыкаў і настаўнікаў беларускіх школаў пісаць нам аб сваёй працы й выніках навучаньня, а таксама прысылаць груповыя фатаграфіі для зьмяшчаньня іх у часапісе.

**К А Н А Д А**

**Моладзь Таронта.**

Таронта — гэта другі ў вялічыні горад Канады, ведамы вялікай колькасьцяй моладзі, як тутэйшай, так і новапрыбылой. Цімала тут і беларускае моладзі. Хоць тут і няма арганізацыі беларускае моладзі, як у ЗША, але ладная колькасьць беларускіх юначак і юнакоў актыўная ў грамадзкім жыцьці, ці то пры мясцовых парахвіях (дзьве такія), ці то пры грамадзкіх арганізацыях, як ЗБК і БНА. Дзякуючы іхным стараньням у Таронта ці раз ладзіліся вечарыны моладзі, пікнікі. Далей нашая моладзь ня блага выяўляе сябе ў царкоўных хорах, у мастацкай самадзейнасьці на сьвяткаваньнях ды іншых імпрэзах, дзе рэпрэзэнтуецца беларускае нацыянальнае ймя. Варта ўспомніць колькі прозвішчаў ведамых мясцовай таронцкай калёніі з тых ці ін-

шых дадатных бакоў. Вось дзеля прыкладу возьмем **Уладзімера Барановіча, —** ён заўсёды бярэ ўдзел у мастацкіх выступах, стала распаўсюджвае часапіс „БМ", а таксама шмат памагае а. Прат. Міхалу ў часе набажэнстваў, разам з Уладзімерам Філяновічам. Валя Філяновіч усім ведамая у мастацкай самадзейнасьці, у царкоўным хоры ды праводжаньнем лятароўў. Ж. Слаўко таксама ці раз паказаў сябе ў скоках і ўжо другі год належыць да дырэкцыі Беларускай Касы Самапомачы. Ягоны брат, Валянтын, славіцца тут добрым вучэньнем на ўнівэрсытэце й мае дзяржаўную стыпэндыю. Ня менш актыўныя ў тэй ці іншай галіне сёстры Лабузавы, сёстры Жук, Марыя Рагіўская, Ніна Дуб, Барыс Кірка, А. Некарашэвіч, К. Залеўскі, С. Грушка, Гаркуша ды шмат іншых.

### АПОШНЯЕ З КЛІУЛЕНДУ

24 чырвеня кліўлендзкі гурток і салістка Іра Каляда выступалі зь беларускімі народнымі песьнямі й танцамі на кліўлендзкім ўнівэрсытэце „Джан Карол" у часе ўрачыстага адкрыцьця студыяў пра Савецкі Саюз і паняволеныя народы. Праведзеная канфэрэнцыя складалася з колькіх дакладаў, у якіх прафэсары й палітыкі выступалі ў вабароне паняволеных народаў, крытыкуючы, між іншага, дасюлешнюю палітыку Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня. Увечары адбылася мастацкая частка, у якой узялі ўдзел Беларусы ды іншыя паняволеныя народы Савецкага Саюзу.

**Вітаем** сяброўак **Жэню Яневіч** і **Таню Аўдзей** з заканчэньнем студыяў біялёгіі ў Даглес Каледж у Нью-Брансўіку, сябру **Аўгена Несьцяровіча** з заканчэньнем студыяў матэматыкі на Бруклінскай Політэхніцы й сяброўку **Джоэн Станкевіч** із здабыцьцём дыплёму магістра сацыяльных навукаў. Жадаем ім удачы ў далейшай навуковай і грамадзкай працы!

---

### НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ

**„Сьветач Хрыстовае Навукі" —** беларуска- эвангельскі часапіс. Зьмест: рэлігійны й грамадзка - ўзгадавальны. Выдавец, др. Ян Пятроўскі, запачаткаваў часапіс яшчэ ў 1933 г. у Вільні, а цяпер аднавіў яго на эміграцыі. У вапошніх нумарох, між іншых матар'ялаў, зьмешчаныя ўспаміны зь беларускага грамадзкага жыцьця ў Вільні ў 30-х гадох. Да № 4 „Сьветача Хрыстовае Навукі" быў далучаны дадатак „Моўныя рэсурсы" ў вапрацаваньні рэдакцыі „БМ", за што выдаўцу шчыра дзякуем.

*УВАГА! УВАГА!*

*Рэдкалегія „БМ" прыступіла да апрацаваньня альманаху аб СЛУЦКІМ ПАЎСТАНЬНІ. Гэтта зьвяртаемся да беларускага грамадства з просьбай: калі хто мае фатаграфіі Случчыны, дакуманты, ці іншыя матар'ялы аб паўстаньню, калі ласка, пазычце на кароткі час.*

СЯБРОВЕ!
АДНАВЕЦЕ ПАДПІСКУ
НА ЧАСАПІС!



## ЛІСТЫ ДА РЭДАКЦЫІ

Паважаныя сябры!

Атрымоўваю „Беларускую Моладзь" ад 4-га нумару. Цешуся, што часапіс выходзіць і мае добры зьмест. Аднак, у беларускім часапісе хацелася-б пабачыць таксама нешта прысьвячанае *праблемам* беларускае эміграцыі. Не кажу, што патрэбныя „крэпкія" артыкулы, якія „разносяць" тых ці іншых, але хацеў-бы прынамся даведацца аб паглядах самое моладзі на праблемы беларускае эміграцыі, часткай каторае моладзь і зьяўляецца . . . Далучаю падпіску на гэты год.

*Міхась Лабаг*, Томс-Рывэр, Н. Дж.

**Адказ рэдакцыі:** Шчыра дзякуем за падпіску. Падобныя лісты з такімі-ж пажаданьнямі мы атрымалі ад шмат якіх асобаў із Саўт-Рывэру, Чыкага, Таронта й іншых асяродкаў. Адказ на Вашае пытаньне падаём часткава ў гэтым нумары, у рэдакцыйным артыкуле „Наш пагляд". Гэткія дыскусійныя артыкулы будзем час-часом зьмяшчаць, але мы ўважаем, што ў васноўным балоны часапісу павінны адлюстроўваць **жыцьцё** беларускага маладога пакаленьня ды падаваць матар'ялы аб Беларусі й беларускім вызвольным руху ў беларускай і ангельскай мовах.

---

*Айцец Уладзімер Салавей зь Нямеччыны піша:*

*„Шчыра дзякую за „Беларускую Моладзь" і прашу мне яе і далей прысылаць. Надта добра, што Вы пачалі друкаваць гэты дадатак для навукі беларускай мовы ў нямецкай мове. У нас часта бывае, што у сям'і тата Беларус а матка Немка, і зразумела, што дзеці больш гавораць і разумеюць нямецкую мову, як сваю, беларускую. Бо і ў мясцовай школе дзеці між собку карыстаюцца нямецкай мовай. Бацька на працы, а матка (Немка) зь дзецьмі ў хаце — а яна як Немка, ды і ня ўмее па-беларуску гаварыць —дык і выходзе, што пакрысе беларускае мова й сходзіць на другі плян. А таму добра, калі нешта ў форме гэтых беларускіх додаткаў у нямецкай мове й атрымаем — і за гэта шчыры дзякуў."*

---

*„Хай жыве Беларусь! Добры дзень паважаныя Беларусы й Беларускі ў Амэрыцы Я Рыгор Сыной, ад Вас атрымаў кніжку „Беларуская Моладзь". Я дужа рады Вашай кніжкай і яе чытаю й расказваю беларускім дзеткам. Праўда, тут шмат няма беларускіх дзетак, толькі шэсьць.*

*. . . Праўду Вам сказаць, дужа трудна мне тут; я сам не раблю, бо калека, а на сацыяльным урадзе атрымоўваю дужа мала . . . Яшчэ да таго наш сынок Лявон хворы на лёгкія. Купіў-бы рыбнага жыру, або які хунт яблыкаў яму, але няма за што . . .*

*Жыве Беларусь!*

***Рыгор Сысой.***

## *УВАГА! БЕЛАРУСЫ КАНАДЫ!*

Надыходзіць агульны перапіс жыхарства Канады. У сувязі з гэтым вельмі важна, каб нацыянальнасьць усіх асобаў беларускага паходжаньня была правільна запісаная. Заходы ўвесьці беларускую этнічную групу на блянкі перапісу не далі пажаданых вынікаў. Беларуская нацыянальнасьць афіцыйна прызнаная канадзкімі ўладамі, аднак, пры атрыманьні грамадзянства замала асобаў скарыстала з гэтага, у выніку чаго беларуская нацыянальнасьць ня была ўведзеная ў блянкі перапісу, як і некаторыя іншыя нацыянальнасьці: Баўгары, Латышы ды іншыя. Тым ня менш, кажнаму даецца магчымасьць запісаць у вадпаведных рубрыках перапіснога апытальніка сваю нацыянальнасьць. Дзеля гэтага на такія пытаньні, як „Месца народжаньня?", „Этнічная група?", „Родная мова?" **Беларусы павінны адказваць: „Беларусь", „Беларуская", Беларуская".**

Беларускім арганізацыям раіцца павывешваць у сваіх сьвятліцах перапісныя блянкі зь інструкцыямі, а паасобным адзінкам раіцца зварачацца да сваіх грамадзкіх арганізацыяў і цэнтраў па інфармацыі.

**Беларусы Канады! Пілнуйце свае нацыянальнасьці! Гэтым Вы паможаце беларускаму народу змагацца за свае правы.**

## Да праекту „Моуныя рэсурсы"

„БМ" трымае сталы кантакт зь кіраўніцтвам праекту „Моўныя рэсурсы Амэрыкі" (гл. „БМ" № 8 і 9). У травені рэдакцыя часапісу атрымала й выпаўніла адмысловы апытальнік, падаючы дадзеныя пра дзейнасьць і мэты выдавецтва „БМ". Пры дапамозе гэтага апытальніка кіраўнікі праекту „Моўныя рэсурсы" зьбіраюць інфармацыю пра ўсе чужамоўныя выданьні ў ЗША, навет пра тыя, што спынілі сваё існаваньне. Вельмі пажадана, каб сучасныя й былыя беларускія выдаўцы навязалі лучнасьць зь кіраўніцтвам праекту „Моўныя рэсурсы" ды падалі адпаведныя весткі пра свае выданьні.

Наагул, трэба каб як найбольш беларускіх арганізацыяў і прыватных асобаў улучыліся ў акцыю „Моўныя рэсурсы" — дасьледваньне праблемы захаваньня мовы й культуры этнічных групаў Амэрыкі. Па інфармацыі зварачайцеся да нас або беспасярэдня на адрыс:

*Language Resources Project*
*111West 57 Street, R. 1520*
*New York 19, N. Y.*

***У летапісе Менск ўпяршыню ўспамінаецца ў 1067 годзе. Прыпушчаюць, што паўстаў у IX-ым стагодзьдзі.***

***Гомель ўпяршыню ўспамінаецца ў летапісе ў 1142 годзе.***

***Горадзенскія князі ўпяршыню ўспамінаюцца ў 1116 годзе, а горад — у 1128 г.***

*Полацак ўпяршыню ўспамінаецца ў 862 годзе.*

***Віцебск ўспамінаецца ўпяршыню ў 1021 годзе.***

***Наваградак паўстаў каля 1116 году.***



## *ПРАДМОВА ДА „ДУДКІ БЕЛАРУСКАЙ"*

Братцы мілыя, дзеці Зямлі — Маткі маей! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, ды і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя, „мужыцкай" завуць, а завецца яна „беларускай".

. . .І перäканаўся я, што мова наша такая-ж людзкая й панская як і францускам, альбо нямецкая, альбо й іншая якая. Чытаў я цімала старых папераў па дзьвесьце, трыста гадоў таму пісаных у нашай зямлі і пісаных вялікімі панамі, а нашай мовай чысьцюсенькай, як-бы вот цяпер пісалася.

. . . Наша мова для нас сьвятая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцом, і гаворым-жа мы ёю шмат і добрага, але так ужо мы самі пусьцілі яе на зьдзек, не раўнуючы, як і паны вялікія ахвотней гавораць па-францускy, як па-свойму.

. . . Ці-ж ужо нам канешне толькі на чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а навет трэба знаць суседзкую мову, але наперш трэба знаць сваю.

. . . Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек перад сканаўньем, каторому мову займе, а потым і зусім замерлі. Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі! Пазнаюць людзей ці па гаворцы, ці па адзежы, хто якую носе; ото-ж, гаворка, язык і ёсьць адзежа душы.

. . . Можа хто спытае: дзе-ж Беларусь? Там, братцы, яна дзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мазыра, ад Віцебска за малым не да Чарнігава, дзе Гродна, Менск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак . . .

*Мацей Бурагок*

*Загадка: Маленькі Даніла ў пяцельцы ўтапіўся.*

*Загадка: Бацька з сажань, маці зь пядзю, а дзеці па мезеным пальцы.*

*Загадка: Б'юць каламі, рэжуць нажамі, затое так лупяць, што ўсе яго любяць.*

*Загадка: Глядзіць хвігай, а ўсе цалуюць.*

*Загадка: Зялезны ток, свіны пераскок, пасад граганы.*

**Рэдкалегія:** Ю. Станкевіч, В. Кіпель, В. Станкевіч, Б. Русак, А. Несьцяровіч (заступнік гал. кір. ЗБМА). Я. Запруднік.

**Карэспандэнты:** Ул. Дунец, Н. Жызьнеўскі.

**Адміністратар:** Ю. Станкевіч.

**Тэхнічны рэдактар:** В. Мельяновіч.

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

### Камітэту набыцьця Беларускага цэнтру адпачынку.

24 чырвеня сёлета ў Нью-Ёрку быў скліканы арганізацыйны сход усіх зацікаўленых у набыцьці Беларускага цэнтру адпачынку. Ініцыятары сходу найперш падалі інфармацыі аб знойдзеным імі аб'екце каля Брустар, штат Нью-Ёрк *. Удзельнікі сходу выказалі свае пажаданьні што да плянаванага цэнтру адпачынку. Ён павінен быць: месцам агульнага летняга й зімовага адпачынку; месцам для летніх лягероў дзяцей і моладзі; месцам для грамадзкіх зьездаў, сьвяткаваньняў , спартовых сустрэчаў, пікнікоў, вечарынаў і г. д.

Сход выбраў **Камітэт набыцьця Беларускага цэнтру адпачынку** й даручыў яму наступныя заданьні: а) заснаваць і залегалізаваць (праўна зацьверддзіць) акцыйную супалку для набыцьця маемасьці; б) наладзіць продаж акцыяў гэтае супалкі (адна акцыя — 100 дал.); в) шукаць адпаведнага аб'екту й інфармаваць грамадзтва аб ходзе справы; г) купіўшы маемасьць, склікаць сход сяброў супалкі, на якім разьвяжацца пытаньне далейшае адміністрацыі Цэнтру (на гэтым Камітэт набыцьця спыніць сваё існаваньне).

У склад Камітэту набыцьця ўвайшлі: сп. сп. Васіль Юрцэвіч (старшыня),Уладзімер Пеляса (скарбнік), Юры Станкевіч (сакратар). Сход пастанавіў, што ў Камітэт павінны таксама ўвайсьці прадстаўнікі ад кажнага беларускага асяродку із званьнем заступніка старшыні. Камітэту было даручана паклікаць мясцовых прадстаўнікоў. На сяньняшні дзень да Камітэту набыцьця Беларускага цэнтру адпачынку належаць ужо 11 мясцовых прадстаўнікоў. Апрача самога Камітэту, сход абраў Статутовую камісію, якая мае апрацаваць праект статуту супалкі ды склікаць сход для зацьверджаньня яго. У Статутовую камісію ўвайшлі сп. сп. Л. Галяк (старшыня), П. Ганэцкі, К. Мярляк, Я. Юхнавец, А. Шукелайць.

Акцыі Камітэту можна набыць, пасылаючы грошы на ніжэй пададзеныя адрасы:

1) Resort Bielarus Co., 227 078 06
Union Dime Savings Bank
1065 6th Avenue
New York City.
2) Mr. W. PIELESA
250 East 4th Street
New York City.

ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ БЕЛАРУСЫ! ПАДТРЫМАЙМА АКЦЫЮ НАБЫЦЬЦЯ СВАЙГО ЦЭНТРУ АДПАЧЫНКУ!

* Інфармацыйную лятучку аб гэтым аб'екце можна атрымаць, пішучы на адрыс „БМ".